# Маладзёвы весьнік

№4(4) Лістапад 1997 Выданьне Маладога Фронту


**Для Маладога Фронту існуе толькі два сапраўдных аўтарытэты - якія не гоняцца за рэйтынгам, не б'юцца за месца, а сапраўды працуюць на Адраджэньне. Матар'ял Зянона Станіслававіча вы чыталі ў 1-ым нумары весьніка, а ў гэтым мы публікуем артыкул Хроснага Бацькі Маладога Фронту - адказнага Сакратара Управы БНФ Вячаслава Сіўчыка.**

## Не затрымлівай лукашэнку.

Апошнім часам здаецца распачаўся конкурс у шэрагах шырокае апазыцыі — хто зьменіць лукашэнку. Каскад разумных артыкулаў палітыкаў, сфармаваных яшчэ пры кананьні маскоўскага бальшавізму і атручаных імпэрскімі ідэямі на ўсё жыцьцё. Тых палітыкаў, якія яшчэ нядаўна, падчас апошняга ганебнага рэфэрэндуму здавалі Беларусь, а цяпер першыя "змагары" з рэжымам. Феерверк палітычных заяваў і ініцыятываў, міжпартыйных пагадненьняў і ўсялякіх канвэнцый. Пры гэтым, па маіх падліках, існуе не меньш за 50 апазыцыйных палітыкаў, якія сьпяць і бачаць сябе прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь.

Усё гэта пустое -- баляваньне пад час чумы. Пустазельле застаецца пустазельлем. Рэжым сам па сабе не сыдзе і не зьнікне. Яго можа зьнесьці толькі сіла. Гэтая сіла ўжо ёсьць і лепшая частка яе -- "Малады Фронт".

Не будзь падобным на тых, хто сьнедае камуністам, абедае лукашыстам і вячэрае дэмакратам. Для таго, каб ўратаваць нашу краіну, будзь самім сабой -- будзь беларускім нацыяналістам, чалавекам, які любіць сваю зямлю і свой народ. Будзь дзейсным, бо забалбатаць можна нават сьвятую справу. Будзь мужным -- ідзе вайна, і ты ня маеш права на іншае.

І калі рэжым лукашэнкі пасьлядоўна зьнішчае ўсё беларускае: мову і школу, эканоміку і прадпрымальніцтва, газэты і палітыкаў, то менавіта ТЫ мусіш пасьлядоўна абараняць усё беларускае - рабочых і сялян, прадпрымальнікаў і студэнтаў, пенсіянэраў



і вайскоўцаў. ТЫ мусіш абараняць свой беларускі народ. ТЫ мусіш змагацца за Беларусь, калі жадаеш мець гонар звацца чалавекам. Такі твой лёс. Але памятай -- не бывае акупацыйных рэжымаў, якія трывалі вечна. Будзе на Беларусі беларуская ўлада.

І дзеля гэтага аб'ядноўвай сваіх сяброў, бо калі ў нашых шэрагах будуць не дзесяткі, а сотні тысячаў людзей, проста ня будзе аніякай дыктатуры.

Не затрымлівай лукашэнку пры ўладзе -- уступай у "Малады Фронт".

## У НАШЫМ НУМАРЫ:



**Будзь разам з намі!**

## Вязьні сумленьня сядзяць чацьвёрты месяц



16-цігадовага Вадзіма Лабковіча і 18-цігадовага Аляксея Шыдлоўскага рэжым вось ужа чацьвёрты месяц трымае за кратамі. Трымае за тое, што яны размалявалі горад Стоўбцы нібыта крамольнымі надпісамі, тыпу "I LOVE BELARUS". На самой справе, іх віна толькі ў тым, што яны любяць сваю краіну. Таксама, пайшоў ужо другі месяц зняволеньня яшчэ аднаго маладога хлопца – Вадзіма Кабанчука. Ён быў затрыманы пасьля акцыі 12 кастрычніка. Цяпер яму "шыюць" крымінал – нібыта ён 23 сакавіка 1997 года, падчас апазыцыйнай акцыі, штурхнуў (!) мента, у выніку чаго у "ахоўніка парадку" рэзка пагоршыўся стан здароўя. Відавочна, што беларускую моладзь проста хочуць запалохаць, але ж МЫ не здаемся, і будзем змагацца за сваіх сяброў.

Нас не запалохаць!



*Мы чакаем вас, хлопцы !*

# Магілеў. 1917-1997.

7 лістапада, падчас афіцыйнай дэманстрацыі, прысьвечанай 80-годзьдзю... кастрычніка, Малады Фронт і Магілеўскія вольныя прафсаюзы зьвялі з плошчы некалькі соцень людзей, узьняўшы над натоўпам сьцягі й плякаты. Брыгада ціхароў з дапамогай міліцыі паспрабавала спыніць шэсьце, завязалася бойка. У звалцы былі зьбітыя, а пасьля схопленыя шэсьць чалавек. Усіх іх зьвезьлі ў Цэнтральны РАУС, дзе праз колькі гадзінаў і асудзілі. **Ясь Абадоўскі**, адзін зь важароў магілеўскіх маладафронтаўцаў, атрымаў "папярэджаньне" і абяцаньне, што вучыцца ў інстытуце ён больш ня будзе. Нагадаем: яшчэ ў кастрычніку Яся з падобнымі пагрозамі затрымоўвалі й абшуквалі невядомыя "супрацоўнікі міліцыі" ў цывільным. Таксама Абадоўскага выклікалі ў дэканат, недвухсэнсоўна намякаючы, што заняткі палітыкай могуць нашкодзіць ягонаму здароўю й вучэбнаму працэсу. Што ж да самога Яся, дык ён трымаецца малойцам. "Мабыць, яны хочуць, каб я навучаўся ў Эўропе, - патлумачыў сп. Абадоўскі, - не думаю, што ў Ільвове ці Познані адукацыя горшая за магілеўскую". Таксама за акцыю 7 лістапада былі асуджаныя: **Валадар Цурпанаў**, лідэр БНФ Магілева (ён атрымаў 13 сутак зьняволеньня і распачаў галадоўку), **Сяргей Абадоўскі**, старшыня вольных прафсаюзаў Магілеўшчыны, **Валеры Разумаў і Віктар Абрамовіч** - па 5 сутак. Судзіла іх адразу ў РАУСе судзьдзя Цэнтральнага раёну Магілева галіна кужалева, якая вырашыла не губляць часу і вырашыць усе пытаньні за пяць хвілін. Мабыць, таму яна вырашыла не пускаць на працэс журналістаў і прадстаўнікоў БХК, не выклікаць сьведкаў з боку затрыманых. Затое з боку міліцыянтаў сьведкаў было болей чым дастаткова (палова РАУСа з радасьцю пагаджалася пасьведчыць супраць "националистов, которые мешают им работать"). Кужалева ж, са свайго боку, з радасьцю раілася зь мянтамі, што і як пісаць, колькі сутак і каму даваць. Добра пасьмяяўшыся разам з ахоўнікамі парадку, яна асудзіла "парушальнікаў" і паабяцала Ясю, што дашле ў інстытут паперу, пасьля чаго ён адтуль выляціць.



Такім чынам, акцыя 7 лістапада прайшла "спакойна" - "правакатараў" сваечасова затрымалі і абясшкодзілі.

**P.S. Калі ТЫ за Радзіму, за Свабоду, за Незалежнасьць і Мову, за Нашу Волю - ПРЫХОДЗЬ ! Змагайся разам з намі ! Будзь разам з намі ! Адрэса нашага збору: 212030, г.Магілеў, вул. Ленінская, 27. Кожны панядзелак а 18-й гадзіне, кожную пятніцу а 17-й гадзіне. Магчыма зьвязацца па тэлефоне: (0222) 98-32-55 (Андрусь).**

# Гаворыць Віцебск.

Віцебскі "Малады Фронт" пасьпяхова выкарыстоўвае дзеля легальнае рэклямы тутэйшыя давыбары ў гарадзкі Савет 16 лістапада. Кастусь Буйноў, старшыня мясцовае Рады МФ, вылучаны кандыдатам ад блёку "Адзінства дзеля Віцебска". Гарадзкія ўлады й міліцыя вымушаны дазволіць павальную агітацыю за маладафронтаўца ў кватэрах, на сьценах, у газэтах.

Супернікі Кастуся на выбарчай акрузе—штатны пэнсыянэр, абавязковая настаўніца і нейкі афганец (у адрозьненьне ад яго Буйноў усё ж такі беларус). Дзеля таго, каб адбыўся другі тур і віцебскія маладафронтаўцы змаглі б яшчэ паўмесяцы тэрарызаваць жыхароў, неабходна яўка ў чвэрць выбаршчыкоў.

Што ж, зычым посьпехаў, Кастусь!

Чарговую акцыю ў абарону палітвязьняў правялі віцебскія маладафронтаўцы. У канцы кастрычніка яны ладзілі пікет у цэнтры горада, дзе з плякатамі, сьцягамі й кішэннымі ліхтарыкамі ў руках заклікалі грамадзянаў паставіць свой подпіс у абарону Аляксея Шыдлоўскага й Вадзіма Лабковіча. Апроч таго, Віцебскі МФ працягвае збор подпісаў у навучальных установах і па кватэрах.

Дастойна прывіталі маладыя віцьбічы зьяўленьне ў горадзе над Дзьвіною Бэпээсэму. У некалькіх іколах выступы тлустых камсамольчыкаў былі сустрэты магільным маўчаньнем. Дзе-нідзе маладафронтаўцы па- зладзейску папранікалі на ключавыя пасады. А ў СШ №40, буйнейшай у горадзе, да прыходу маладых былі урачыста вывешаны бел-чырвона-белы сьцягі, расьпісаныя ўсе сьцены. Расказваюць, што дэлегацыя "патрыётаў" мела досыць бледны выгляд пасьля гэткага прыёму, а дзяжурны ваенрук (ён жа гэбэшнік) на цырымоніі загрузкі ў актавай залі пастаянна зьбіваўся са страявога кроку.

Наваполацк зноў паказаў сталіцы яе месца пасьля таго, як тутэйшыя музыкі ("Мясцовы Час", "Ален","Зьніч") уцёрлі нос ганарлівым рок-менчукам. Наваполацкія маладафронтаўцы замацавалі імідж крутых "правінцыялаў" шэрагам рызыкоўных акцыяў, шырокай рэклямаю ва ўнівэрсытэцкай газэце "Насьцеж" і наладжваньнем інтэлектуальных гульняў. Апошняя з акцыяў — афармленьне гранта "Беларускія гарады" ў адным з дабрачынных фондаў: дэсант Наваполацкага МФ на днях высадзіўся ў Гародні з мэтаю ўзяць-такі касу.

Куды, у рэшце рэшт, глядзіць сабе сустаршыня Паўленка?!

***Падрыхтаваў Паўло Невядомы***





# Жыгімонт Ваза

## Калі гурт забараняюць, значыць гэта некаму трэба...

У гэтым годзе аднаму са старэйшых беларускіх гуртоў "Zygimont VAZA" споўнілася 10 год. Нягледзячы на свой даволі паважны ўзрост, гурт так і не стаў вядомым на Беларусі, але набыў вялікую папулярнасьць у Літве, бо ў гэтай краіне нарадзіўся лідэр-вакаліст Сяржук Скрыпнічэнка. Нядаўна, пры дапамозе аднаго з сяброў Маладога Фронту пабачыла сьвет праграма "ZV" 1994 года "Стан Галюцынацыі". Паводле зьвестак "Нашае Нівы", якая займаецца распаўсюдам беларускіх запісаў, праграма набываецца з кожным месяцам усё больш і больш. Зараз "Жыгімонт Ваза" займае трэцюю прыступку хіт-парада, саступіўшы месца новаму праекту гурта "Палац" - "KRIWI" і легеньдзе беларускага року, экс "Мроі" - "НРМ".

Гісторыя стварэньня і творчасьць гурта парасла ўсялякага роду легендамі ды скандаламі. Большасьць канцэртаў, дзе зьбіраўся прыняць удзел гурт, былі забароненыя. Напрыклад, канцэрт, прымеркаваны да 52-й гадавіны Беларускай Краёвай Абароны, быў цынічна разагнаны ўладамі. А самі рок-гурты й некалькі глядачоў былі



дастаўленыя ў пастарунак. А за акцыю "Яны ня пройдуць !", якая адбылася ў Лінгвістычным унівэрсытэце, "Жыгімонт ВАЗА", "Мроя", Barfly's Dreams" і іншыя былі прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасьці.

*"Я ніколі не роў лёзунгаў накшталт: "Жыве Беларусь !", бо лічу, што руцінна-плябейска-мужланскае асэнсаваньне Беларусі, якое пануе сярод сёньняшніх нацдэмаў. Для мяне гэта заўжды было агідным. Я перахварэў эйфарыяй мітынгаў 1988-1991 гадоў. Ствараць нешта новае ў сёньняшніх умовах - гэта натуральная неабходнасьць часу й месца. А выцьцё пра заняпад, абяздоленасьць, шматпакутны народ ці "забыцьцё слаўнай мінуўшчыны" сьведчыць пра поўную дэзарыентаванасьць ва ўмовах сёньняшняе культурнае сытуацыі"* - гаворыць Сяржук аднаму з польскіх часопісаў.

Даволі часта прыходзіцца чуць, што на Беларусі няма гуртоў, якія пяюць па-беларуску, акрамя "Уліса", "НРМ", "Новага Неба", "Крамы". Як мы бачым, гурты ёсьць, але чамусьці фанаты беларускага року іх не заўважаюць. Прывяду хаця б некалькі прыкладаў: "Жыгімонт ВАЗА", "Гай", "Зьніч", "Склеп", "Сонца Мао". А колькі яшчэ нязнаных беларускамоўных гуртоў існуе на Беларусі!

Малады Фронт акажа арганізацыйную, маральную, магчыма, нават матар'яльную падтрымку беларускамоўным гуртам. Зьвяртацца з праектамі, ідэямі просім на адрэсу: Менск, пр.Ракасоўскага, д.60, к.1, кв.299 (Іна Грэбень), тэлефон 249-60-67 альбо на скрыню: 220085, Менск, а/с 5, Віталю Супрановічу, а таксама на тэлефон 249-08-88, 231-04-08 (Вітаўт).

# ХІТ-ПАРАД

1. КРЫВІ. Каўчэг.
2. Н.Р.М. Made in N.R.M. Часопіс "Вушы".
3. Жыгімонт Ваза. Стан Галюцынацыі. Skat.
4. АЛЕН. Нармалёк-2, альбо мафія. Vigma.
5. Камэлот. У краіне Талераў. Ton-records.
6. Віктар Шалкевіч. Смутны беларускі блюз. Ton-records.
7. "Новае Неба". Выбранае. Часопіс "Вушы".
8. Крама. Хворы на рок-н-рол. Vigma.
9. Андрэй Мельнікаў. Гэта мы! Анархія-рэкардз.
10. Белы Сон. Беласток. Польшча.

*Рэйтынг складзены па продажы касэтаў-поштай і ва Ўправе БНФ (вул.Варвашэні, 8). Хто жадае набыць касэты з запісамі беларускіх гуртоў, званіце 249-60-67 (Іна Грэбень) альбо 249-08-88 (Віталь Супрановіч).*

# Ды - джэі Адраджэньня.

## (дзецям да шаснаццаці чытаць не рэкамендуецца)

### Паўзмрок.

Так, паўзмрок. Час моладзі. Усе цьмяна, няпэўна... Невядома, ці то бярэцца на глухую ноч, ці то на шары ранак. Ня важна. Галоўнае, што ўсе ўмоўнасьці й законы распушчаныя ў сутоньні. Галоўнае, што ўсе твае нязграбнасьці й агрэхі растаюць у паўсюднае шэрасьці. Сьвятло—толькі намекамі.



У гэтых прысьмерках дзеці пужаюцца, сталыя стогнуць. У паўзмроку здараецца нешта страшнае. Паўзмрок не зважае на стылевы гальштук ці ляяльны выгляд. Тут нічога не варта вучоная ступень—тут можна скапыціцца аб нізкую прыступку й расквасіць высокі лоб. Праклятая каламуць—пара маладых. У ей маладосьць—гэта страшная сіла. Хлопцы і дзеўкі дышуць паўзмрокам і гэтак жа цьмяна думаюць.

Выходзь. У зьмярканьні астатнія пудка пазанурыліся ў свае кватэрныя агмяні ці даўно ўжо пад коўдрай, выключыўшы сьвятло.Ты ўсе вырашаеш сам . Давай, хутчэй рабі тое, чаго хоча твае пагружанае, прытопленае, разьняволенае... Твой цень загародзіць прасьветы вуліцаў і ўвесь горад будзе падтакваць тваім крокам ды перапалоханa пакхекваць рэхам з тваімі хрыпатымі воклічамі. Маладыя тусоўкі ў пад'ездах ці каля бараў. Маладое хуліганьё. Маладыя брыгады амону.

Сёньня — час моладзі. Пустэльныя вуліцы, патаемныя дзеі, пагрозныя прадчуваньні. Парадкі ды правілы стушаваліся ў цьмянай імгле. Яркія агні пазьнікалі. Незалежнасьць, што тунгускі мэтэарыт, грохнулася на плошчы Леніна і з той пары як прапала. Распладзіліся нейкія хлопцы, што шукаюць тае незалежнасьці, зьбіраюцца, б'юць па дварох мянтоў, падрываюць суды й газапроводы, куляюць машыны. Узбуджана заварушыліся, павыпаўзалі зь цьмяных прадоньняў пачварныя зграі амонаў. Панад усім паўстае, клубіцца пагібельны змрочны прывід. Быццам уздымаюцца на даляглядзе няясныя аграмады Эўропы... Рой чырвоных агеньчыкаў—ці маякі аэрапорта Франкфурт, ці зноў злыя крамлёўскія зоркі? Быццам дыміцца штосьці падземнае, цёплае з папялішчаў, руінаў гісторыі... Што гэта?—яшчэ не забытае начное пагрукваньне ў дзьверы: кгб, кгб... Патрэскваe страх у тэлефонных слухаўках... Помсьліва шчэрацца ў гладкіх авечых скураных куртках драпежнікі...Нехта зашыецца ў кут, каб абкурыцца траўкаю. Хтось пагружаецца ў эфіры тэлевізіі ці алькаголю. Але большасьць—у нейкім нярвовым, страхоткім і захопленым узбуджэньні.

Моладзь дрыжыць, бо баіцца і прагне. Гэта той дыскатэчны паўзмрок, калі страшна і хочацца, Божа, як хочацца... Калі вулічная шпана кучкуецца каля выхадаў, тушыць недапалкі ў хрыпатым кашлі, зьбіваецца ў баявыя кодлы... ці не апошні павольны танец, ці не апошнія хвілі да першых асколкаў шкла, да першай крыві... І пакуль не пачаліся павальныя п'яныя пагромы - табе трэба хуценька выбраць: ці то звыкла паабдымацца зь ня надта прыгожай, ды свойскай расейскай знаёмай, ці можа - ух, захапляе дух! - паспрабаваць падысьці да той вунь шыкоўнай, халоднае эўрапеечкі... ці з гэтай вось, бэлай, якая глядзіць на цябе... ну, успомні, дзе ж ты яе бачыў... як жа яе імя...

### Данчык у стылі рэп.

Што ж, арыгінальна. Можа быць, нават, нейкі цымус у гэтым і ёсьць . Але моладзь, паверце мне, сплюне. Дабрадзейныя выраджэнцы аж пучацца па сваіх кватэрах, так хочацца ім, каб ты схрумстаў Гарэцкага разам з салёнымі гарэшкамі, а Купалу запіваў кока-колай. Яшчэ лыжачку... Ну, дзіцятачка... За бабку Рагнэду, за Ві-ітаўта-дзеда, от малойца... За тату-Скарыну, за маму-краіну...



Званітуе, будзьце ўпэўненыя. І бязь дзьвух пальцаў.

Але прадбачлівыя дзядзькі ў гэты паўзмрочны час хочуць, каб моладзь рабіла так, а ня гэтак. Яны крычаць нам у цемру з гаўбцоў, завешаных сямейнай бялізнаю. Яны уздымаюць свой указальны палец і тыцкаюць ім у цёмнае неба, паказваючы, да якіх такіх зораў трэба імкнуцца нам, сёньняшняй моладзі. Праўда, компасы іхныя— яшчэ з часоў піянэрскай "зарніцы". У лепшым выпадку зробленая паправачка на цяперашнюю даўгату валасоў ці шырату сьветапогляду. Арыенціры тыя ж. Дзядзькі няўхільна лысеюць, агаляючы закасьцянелыя лабавыя косьціны, ужо адлякіраваныя да льсьнянага музэйнага бляску, лысеюць, усё пераліваючы з пустога ў парожняе ў глянцава засьпіртаваных зьвілінах—і там, як у аргане, гучыць штосьці велічнае й несумненнае. Дзядзька, забудзься на сваю маладосьць, лепш схадзі сабе ў Філярмонію... Калі не нарвесься на РНЕ.

Зачараваныя й магутныя дзяды, што яшчэ, бывае, трапляюцца ў парках на сваіх легендарных лавачках, вышчыпваюць, быццам хатабычы, сівое валосьсе з барадаў ды скроняў і апантана, прарочымі галасамі заклінаюць юных сяброў у соты й тысячны раз глыбокаю даўніною.

Дзядзькі й дзяды былі б задаволеныя, калі б уся дыскатэчная грамада, замест каб бязглузда дрыгацца й лапаць адно аднаго , разам схамянулася б, працятая чымсьці шчымлівым... і ціхенька, прысаромлена, з адным харавым уздыхам апусьцілася б на шэрагі крэслаў. І ледзьве дышучы, стоена , з зорачкамі ўваччу слухала б штосьці духоўнае, мроенае... удыхала б жытняе ды васількавае... ці суладна шчэрыла б зубы на спалучэньні двух-трох колераў. Высмаркайцеся, шаноўныя. Так не бывае.

Гэта саўковая кухня . Дзеля вастрыні сёй-той прыпраўляе яе заходнімі спэцыямі.Здэйланае ў Карнэгі. Зджортае з сорасаўскімі грантамі. Так жа нельга. Фу. Зьбярыце ў пакецік і выкіньце.

Моладзь сказала"рэп"—значыць, рэп. Ці рок. Або рэйвы. Маладыя ў паўзмроку хочуць дыска. Мы ня танчым пад скарагаворкі Шарэцкага ці Багданкевіча— хай сабе яны здорава машуць рукамі і нават падскокваюць. Нам трэба беларускае дыска . Як вам—"Дыска беларускае"! Тут і сам Багушэвіч, кайф яго праху, нагамі задрыгае, Зайграй, зайграй, маўляў, хлопча ...

Наша Эўропа —тут. Яна з гэтай зямлі расьце. Дык не ж—хочуць яе нацягнуць сюды з Захаду, як цёплую коўдру. Вядомыя адраджэнцы дагістарычнага стажу здабываюць акравачак цеплыні зь Вільні, чым крыўдзяць і так паўаголеных летувісаў. Некаторыя надсілу, надрываючыся, пнуцца усьперці сюды магутную нямецкую эканамічную коўдру, але подлыя арыйцы нешта мармычуць сабе скрозь шчасьлівыя сьненьні й з прысьвістам фыркаюць на тыя хіжыя бледнарускія потугі. Малодшыя ж браткі - дэмакраты спрабуюць дастаць эўрапейскае накрыўкі ажно з Масквы, прычым так дружна захапляюцца сваім "раздва, взяли", што нават гатовыя паверыць самі.

І ня трэба , нарэшце, так доўга тлумачыць, што Расея за дрэнь. Самі ведаем, нюхалі. Вы раскажыце лепш,чым харошая Беларусь(вядома, апроч таго, што яна"жыве!")

Ня тыцкайце мне кніжку Коласа. Я ўжо чытаў, а яны ня будуць. Лепш перакладзіце з ангельскай Толкіна. Цяпер. Навошта нам вашы завалы акадэмічных манаграфіяў— пра вясковыя строі калдыкінскага лязгаса, пра традыцыйныя формы назоўнага склону слова "захопнік" ці яшчэ чортведама што. Дзе ваш бэстсэлер"Беларуская мова" са сьціжмамі крылатых выслоўяў? зь нізкамі пэрляў роднае мовы? Зь ядранай фразэалёгіяй? з картамі ды супэрвокладкай? Сучасныя зборнікі Шоў, віктарынаў, конкурсаў? Дзе ваша "Кола гісторыі"? Дзе ваш"брэйн-рынг"? Кэ-вэ-зэ? Дзе напаўненьне тае тэхналёгіі, якая дае рэкляму, імідж, славу любое дзяржавы для маладых?

Ах, не было магчымасьці? А на поўныя зборы хораў, хвораў і фораў? А на прэзэнтацыі, прысьвечаныя публікацыям камэнтароў да каранацыі? Што, і зараз няма сродкаў ? Ды ёсьць—ацаляеце, хаваеце на выданьне пасьлялукашэнкаўскіх мэмуараў. Няма як разрэклямаваць? Улётачкамі, спадарства. Улётачкамі. Расклей сам, называецца. Мы ж так і робім. Наклад? Колькі напішаце ад рукі: друк законам ужо замятаны.

Я не хачу яшчэ адзін фільм пра звычайнага прэзыдэнта. Я гэты сэрыял кожны дзень гляджу на розных каналах, тошна ўжо. Герой ня той! Дзе супэрстужка "Грунвальд" ці





"Вітаўт Вялікі"—кшталту "Сьмелага сэрца"? За тры гады Незалежнасьці не зьнялі адкрыта? За тры гады Лукашэнкі не зьнялі падпольна? Здымайце зараз. У Летуве. На Украіне. У расеі, чорт пабірай. Моладзь прагне пабачыць.

Толькі ня трэба сіпець. Так, сапляк. Ну, раскрычаўся. Але мы не саромеемся крычаць. Мы крычым на мітынгах на поўнае горла. Гэта вам павінна быць сорамна, спадарства. Мае радкі зараз глядзяць вам у вочы; і вашыя вочы апушчаныя. Чырванейце.

Трыццаць тысячаў інтэлігентаў у гэтай краіне, страшна падумаць. Трыццаць тысяч - столькі каштуюць суткі на Прылуках.

Дзесяць мільёнаў баксаў ухнуў у гэтае адкрытае грамадзтва пан Сорас. Грамадзтва аказалася вельмі ж адкрытае, проста як прорва. Дзесяць мільенаў людзей не дачакаліся ад нас Беларусі. Самі сабе можам крычаць"ганьба".

"Данчык хоча ў Тамбоў"... Не, Данчык не сьпявае рэпу.

## Павольныя танцы з ваўкалакамі.

Ты як дзяўчынка на дыскатэцы. Вось ён, павольны танец. Нешматлікія прыстойныя хлопцы хуценька разабраліся. Круцяцца дзесьці—хто зь бізнэсам, хто з каханкаю, хто з гарэлкаю.Ты не патрэбна нікому. Інтэлігенцыя. Робіш выгляд, што ну і шут з вамі. Ганарлівая. Губкі надзьму. Вочы будуць халодныя й невідушчыя. А засталіся навокал, рыскаюць толькі прагныя страшыдлы. Здаравенны п"яны амонавец у камуфляжы азіраецца, дзе б за што хапнуць, нават не адчапіў свае гумавае дубіны. *Лысаваты прыдурак, гаспадар дыскатэкі, з такімі во* лапішчамі. Нейкі дваровы высьмердак сплюне бычка, кіўне—маўляў, пайшлі, шалава. Страшна і брыдка.

Але вось яны, гэтыя разьвязныя мажоры. У іх ёсьць грошы, *падвешаны язык, бліщчастыя вочы зь нядобрым агеньчыкам*... Іклы відаць. Ім бы палапацца ды памацаць, а далей... Ты ж да самага дна , чорт пабірай, ведаеш іхнюю подласьць.

- Пошли, девочка, подвигаемся.

- Дзьвігай сам, казёл. Ня руш...

Але ты ідзеш. Ты зайграеш зь ім. Ты знаеш, што пасьля дыска мажор прапануе кілішак вінца, адвядзе цябе ў свой "Москвич" і згвалціць "па любві" на заднім сядзеньні. Можаш змахнуць сьлязу. Ён суцешыць:

- А ты вообще ничего. Только какая-то дзеравенская...

Стоп! Ня танчы. Лепш адыдзіся да сьценачкі. Лепш паспрабуй прарвацца праз кардоны шпаны па каўток сьвежага паветра. Лепш дахаты, а там—проста паплакаць у падушку... Інтэлігентна, з рыданьнямі—як сабе хочаш. Галоўнае, ня танчы з ваўкалакамі. Рытмы заварожваюць. І не прыкмеціш, як у самой выткнуцца кіпці, як аскаліцца ікламі пашча... Гэта называецца скурвіцца.

Я ведаю, што паўзмрок сыдзе. Ясна, што будзе дзень. Знаю, што гэбельсы й іншыя гэбісты будуць пазацкаваныя ў свае казэматы, прыціхнуць, і толькі часамі на ціхіх лецішчах, калісь за чайком, пацмокнуць дасадліва:"Эх, бля, не дацiснулі мы тых дзерманстрантаў у дзевяноста гэтым..." Знаю. Для іх было запозна ўжо за Пазьняком. І слушна рысаваў Харэўскі, што ня зломіш. Ды урэшце, ёсьць жа магутны Божа на сьвеце.

І таму я баюся ня заўтрашняга. Ня штурму офіса БНФ, не перакуленых тралейбусаў на праспэкце й ня грохаў сьвяточнага салюта. Я баюся таго, што будзе пасьля. Я баюся разумных хлопчыкаў і дзяўчатак, якія паплёўвалі на беларушчыну сеньня і будуць харкаць на яе заўтра. Тых, каму зараз ікаецца кожная кропка над "і". Баюся тых, хто зойме ўладныя кабінэты. Хто на плошчы Незалежнасьці скіне чыгуннага Леніна й паставіць залатога Чубайса. Баюся таленавітых, якія з крыкамі "В Москву! В Москву!" — будуць маляваць, сьпяваць, гаварыць не па-нашаму. Найбольшы, нязводны кашмар для мяне — геніяльныя. Бо мне стыне сэрца зусім не тады, калі Лукашэнка лушчыць і сплёўвае семкі свайго моваязу. Жахліва, калі твае джойсы твораць у ангельскай. Беларусь можа не перажыць дастаеўскіх, міцкевічаў, глінкаў трэцяга *тысячагодзьдзя. Можа не нарадзіць багрымаў.*

Сёньняшні тонус Адраджэньня трымае адзін Лукашэнка. Гэта ён наструньвае радкі незалежных газэтаў. Гэта ён выганяе на вуліцы моладзь. Хлопцы й дзяўчаты, для якіх забаранілі плады беларушчыны, *употай, назло ласуюцца нашымі кісьленькімі* недасьпелкамі. Я гартаю старыя старонкі "Нашай Нівы", часоў шушкевіча, і разумею - калі мы прыйдзем да ўлады, зноў падымецца вэрхал. Кароль голы. Трэба цара.

*Я баюся гэтай распуснай раскошы імпэрыі. Я жахаюся яе* аграмадных сфабрыкаваных скарбаў, наваленых тут у незьлічонае колькасьці. На тле заводзкіх складоў расейшчыны беларускасьць яўна мізэрная й саматужная. Штучные поделки, ничего более. Штукаваная драбяза. І ніхто не паверыць, што ў гэтай зямлі тояцца цуды куды большыя й куды як каштоўнейшыя.

Была Незалежнасьць. Праспалі (пасьля літары "с" можна для перцу і "р", і "ц", усе аднс праспалі ). Цяпер Імпэрыя наносіць удар у адказ. Глядзелі такое кіно - "Зорныя войны"? Часоў халоднага супрацьстаяньня, для амэрыканскіх школьнікаў? Як змагаліся рыцары Джэдаі...

Зараз і ў нашае хаце - нятопленая дыктатура. Зараз у нас - зорны час Ды-джэяў. Ды-джэяў Адраджэньня.

## Пстрыканьне на пульце.

Тым, хто сьцярпеў дачытаць дасюль, ужо зразумела, дзе зараз іхняе месца. Ня ў залі сярод натоўпу. Ня вонкі, глядзець у шыбы. І нават не ля парашы. Месца — у цёмнае, патаемнае нішы, дзе знаходзіцца сам дыскатэчны пульт. Пост нябачнага шоўмэна — гэта ня "пост" вашае нівы. Гэта магнітны полюс падпольнага, цьмянага валадара эмоцыяў. Тагс, хто лёгкім шчыканьнем эквалайзэра змушае табунную грамаду уздрыгацца да згубы пульсу. Таго, хто, амаль нявідны, ведае дасканала — калі як выгукнуць зь цёмнае пячоры, каб рэхам дрыжэла ўся заля, калі ўзьняць нястрымны рогат і як нарвацца на воклічы "Брава!".

Толькі скрозь падсьвядомыя глыбі разумныя зробяцца нам *падступнымі. Дзейнічаць толькі праз гулкія мазгавыя падвалы.* Толькі тады дабярэмся да дэбіларусаваных кодаў у лепшых галовах. Бо лёгікай нельга. І верыць вачам у паўзмроку нельга. Толькі з рэхам беларускай гульні, беларускага шоў, беларускае дыскатэкі раю адкласьці падалей цяжкія пліты старасьветчыны, пісьменьніцтва, дойлідзтва ды тэатру.

Хлеб беларускі яны ўжо ядуць. Цяпер за намі відовішчы. Клюбы, тусоўкі, шоў, віктарыны, анкетаваньні, тэсты. Абавязкова прызы — недарагія, але карысныя. Абавязкова — спорт, музыка, інфармацыя.

Што, ты ўжо захацеў быць Ды-джэем?

Тады ўяві:

Першае — выгляд. Дружа, ня трэба гэткай арыстакратычнай грэблівасьці да людзтва, зацкаванай пад самыя бровы. Ня трэба адтапыранага мезенцу. Ва ўсіх у нас кроў чырвоная, без арнаментаў, зяленіны ці блакітных адценьняў. Ня варта таксама стоенай у прымружах усявёднае мудрасьці. Так выглядае хадзячая труна беларушчыны.

Усьміхайся ўсімі зубамі, упэўнена і нахабна. Не забывайся, што гэтыя зубы з тваім языком дадзеныя прыродаю для дэманстрацыі натуралёвага бел-чырвона-белага. Гэта—наш стыль. Гэта—прарочаньне перамогі. Будзь пэўны, дасьціпны і гаваркі. Будзь чысты. Заўжды гатовы. Ніякага занурэньня ва ўласны шэпт. За табою—уся моц гісторыі, нацыі, краіны! Ты— на сваёй зямлі!

"Мроя" мела рацыю. Большасьць за тых, хто пераможа.

Другое. Не рабі стаўку на масавасьць. Шараговая шэрая *большасьць удзельнікаў нашага дыска табе не патрэбна.* Твае найпершыя мішэні—галавастыя і акулярыстыя. Будучая эліта. Цэль па буйных галовах.

Трэцяе. Грай, зайгравай зь імі. Закідвай. Прынаджвай. Тонка *пільнуй эфірны эфэкт, зыбкія густы й няясныя пахі. Ты не павінны* кавадлам убухваць у іхнія чарапы спрадвечныя праўды. Ты абуджаеш чуйныя , ценкія струны, якія ад нараджэньня нацятыя ў кожнага тутэйшага. Якія скрозь працінаюць усіх нас. І якія ўжо зараз пацiху гучаць, я чую.

Ня трэба навальвацца на маладых. Ня трэба, цяжка й помсьліва сапучы, гвалціць стодамі беларускае літаратуры ці поўнай праграмай айчыннай гісторыі. Хопіць вытанчанага, трапяткога , калі хочаш, эратычнага флірту. Аднаго дотыку да тэмы—пяшчотнага ці пранозлівага. Гарэзьліва—правакацыйнага намёку... І моладзь сама задыхае часьцей, ўрэшце абудзіцца і рыне ў абдымкі твае беларушчыны.

Ты прачуеш сваю пераможную ўпэўненасьць тэмбрам голасу, струннымі пераборамі зьвязак, кшталтаванымі пульсамі жэстаў—ад сухога й халоднага шчоўканьня пальцаў да гарачага й мокрага плясканьня ў ладкі.

Кантрольная праверка—усяго ў дзьвух словах. Жыве Беларусь... Божа, ды я вас ня чую! Жыв-ве Беларусь! Жыве?! Штосьці квола жыве, вунь у тым кутку дык бадай яшчэ не нарадзілася... Хлопцы-дзяўчаты, ну-ка грымнем яшчэ раз, дружна, каб сашу сташніла там! Жыве Беларусь!!

Хіт сэзону. Сустракайце. Вы ўжо пачулі іх, першыя такты беларускага дыска. Першыя клічы ды-джэяў.

**Павал Севярынец**





# РАЗБУРЫМ ДАШЧЭНТУ, А ПАСЬЛЯ...



***Знаёмы нам лёзунг часоў кастрычніцкага перавароту застаўся актуальным і па-сёньняшні дзень, асабліва ў гістарычным цэнтры Менску. Але ўсё па парадку.***

Пасьляваенная афіцыйная прапаганда сьцьвярджала і сьцьвярджае сёньня, што нямецка-фашыстоўскімі захопнікамі быў разбураны ўвесь цэнтар сталіцы Беларусі. Але гэта была і ёсьць сьвядомая хлусьня, бо праз усю вайну часоў вайны захаваліся амаль некранутымі ня толькі Дом Ураду Рэспублікі , Дом Чырвонае Арміі, будынак ЦК КПБ (цяпер рэзыдэнцыя прэзыдэнта), Вялікі Акадэмічны тэатр опэры і балету, але й гістарычны цэнтар - Верхні горад, Ніжні рынак, Ракаўскае, Траецкае, Татарскае ды іншыя прадмесьці. Трэба зазначыць, што былі пашкоджаныя езуіцкі калегіюм(на пляцы Волі), дамініканскі кляштар на цяперашняй Кастрычніцкай плошчы; Траецкі залатагорскі касьцёл сьв. Роха. Іншыя культавыя і грамадзкія збудаваньні засталіся амаль некранутыя (ляжалі ў руінах толькі асноўныя магістралі і аб"екты сталіцы, якія пацярпелі ў асноўным ад налётаў савецкае авіяцыі, прыкладам: вул.Савецкая—праспэкт Леніна-Сталіна-Скарыны, гатэль"Эўропа" ды іншыя). Няхай ня думаюць шаноўныя чытачы, што я апраўдваю немцаў і сьвядома ганю Саветы— гэта была зьява цалкам вытлумачальная, бо ў 1941 годзе ў паніцы камуністы вывозілі за сабой усё, што маглі, а рэшту зьнішчалі, бо не спадзяваліся на вяртаньне назад; фашысты наадварот, думалі, што тут яны ўсур`ёз і надоўга і таму што-кольвечы нават адбудоўвалі і рамантавалі.

Але прыйшоў дзень 3-га ліпеня 1944 году і савецкія войскі акупавалі сталіцу Беларусі, выгнаўшы ранейшых акупантаў. Адразу пасьля "вызваленьня", у сталіцы БССР пачаліся аднаўленчыя працы, а дзе-нідзе і разбуральныя. Так, у 1950-я гг. было скапана старажытнае замчышча, якое месьцілася ў раёне сучаснага пляцу 8 Сакавіка; зруйнавалі магамэтанскую мячэць, на месцы якое цяпер стаіць гатэль "Юбілейны", перабудавалі катэдральны касьцёл найсьв. панны Марыі(цяпер адноўлены) на пляцы Волі і царкву Марыі Магдаліны на былых Старажоўскіх могілках (у 1990-м годзе таксама адноўлена ), зруйнавалі Дамініканскі і Бенэдыктынскія касьцёлы й кляштары ў Верхнім горадзе (пазьней на іх месцы будуць збудаваныя адпаведна палац Рэспублікі і Пракуратура БССР). Тэатр Янкі Купалы, які ў гэты час непазнавальна перабудавалі і зьнішчылі ўвесь мадэрновы дэкор пачатку 20-га стагодзьдзя. Зьнесьлі і Лютэранскую кірху, падчас "аднаўленьня" галоўнага праспэкту. Я ўжо казаў пра Замчышча—Менскі "Крэмль", побач зь ім яшчэ з 12-га стагоддзя цякла рэчка Няміга, уздоўж якое ішоў рамесьніцкі пасад, які ў часы Сярэднявечча перарос у т.зв. Ніжні Рынак. Ня зьлітаваўся зь яго лёс—увесь пад корань ён быў сканаваны дзеля таго, каб потым на яго месцы зьявіўся пустыр—плошча 8-га Сакавіка. У канцы 50-х-пачатку 60-х быў зьнесены помнік архітэктуры16-га ст. з рысам готыкі і рэнэсансу—так званая "Халодная сынагога" на Нямізе. Не абыйшла Менск хваля разбурэньняў і ў 1960-я гады, калі канчаткова зьнесьлі былы езуіцкі калегіюм, які прымыкаў да катэдры, а таксама перабудавалі будынак, збудаваны яшчэ ў 1690-х гадах, дзе спачатку была езуіцкая школа, потым казённыя ўстановы, а да пабудовы Дома Ўраду на плошчы Незалежнасьці ў 1920-я гг. там месьціўся ЦВК БССР,што, аднак не перашкодзіла зьнявечыць унікальнае для Беларусі збудаваньне. У 1970-я гады, у час машэраўска - брэжнеўскага застою распачалася цэлая кампанія па зьнішчэньні беларускае культуры. Гэта ня толькі вызваленьне ад вывучэньня роднае мовы, але і працяг руйнаваньня гістарычных цэнтраў беларускіх гарадоў. У Менску разам зь Нямігай руйнуюцца суседнія вуліцы і кварталы, а ў Верхнім горадзе зносіцца напаўдраўляны-напаўмураваны флігель сядзібы Вальковічаў, збудаваны ў у 17-18 ст., а таксама некаторыя дамы ў Траецкім прадмесьці. Гвалт з архітэктурнай спадчыны Менска быў часова спынены, дзякуючы пратэстам грамадзкасьці, але пратэсты пратэстамі, а справа справай, і ў выніку -- за адну ноч ня стала першага Менскага тэатру, дзе ў 1852 г. была пастаўлена першая беларуская опэра на музыку С. Манюшкі і на лібрэта В. Дуніна-Марцінкевіча пад





назвай "Ідылія" (альбо "Сялянка"). Так званая рэстаўрацыя Траецкага прадмесьця і Верхняга гораду хоць і ўратавала іх ад поўнага зьнішчэньня, адначасова мела шмат адмоўнага. Напрыклад, у Траецкім прадмесьці было разбурана і не адноўлена некалькі дамоў у дварох на рагу вуліц Камунальнай Набярэжнай і М.Багдановіча. Чаму? Бо "рэстаўрацыя" ішла (а ў Верхнім горадзе й па сёньняшні дзень ідзе) паводле прынцыпу: разбуры і аднаві, як табе заўгодна. Асобна спынюся на аб`ектах Верхняга гораду і Ракаўскага прадмесьця. У выніку работ па вуліцы Герцэна на 90% была зьнесена забудова (акрамя двух дамоў на рагу з вуліцай Гандлёвай). А потым "адбудавана" паводле ўжо вышэй узгаданага прынцыпу. Не выключэньне тут і вуліца Інтэрнацыянальная (ад вул.Леніна да р.Сьвіслач), дзе нашы гора-"рэстаўратары",а прасьцей кажучы,"будаўнікі-алкашы" на загад сваіх босаў не пашкадавалі нават дому, дзе жыў у сярэдзіне 19-га ст.вышэйузгаданы вядомы кампазытар Станіслаў Манюшка.Па шчасьцю, асталіся тры дамы 18-19 стст., дый толькі таму , што ў адным--вайсковая установа, а ў іншых да нядаўняга часу разьмяшчалася Пушкінская бібліятэка. Асобна стаяць тут Дом масонаў і Дом Ванькевіча, якія больш-менш удалося захаваць амаль некранутымі і нават адрамантаванымі. Але яшчэ дасюль у занядбаным стане стаяць будынкі старадаўняга гасьцінага двара, кляштара базыльянаў і сядзібнага дома18 ст. на пляцы Волі, а побач зь імі красуе адрамантаваны кляштар базыльянак17 ст. (цяпер там музычная школа №1)—гэта,бязумоўна, трывожыць, як і лёс бэрнардынскіх кляштараў, дзе ў адным вучацца дзеці, а ў другім вайскоўцы, што ніяк не спрыяе іх захаванасьці. Што датычыць Ракаўскага прадмесьця, дык там усё толькі пачынаецца, але ўжо сёньня для нас страчаныя фрагмэнта забудовы вуліц Вызваленьня, Замкавай і Віцебскай. Што чакае будынкі, да якіх яшчэ не дабраліся рукі заможных дзядзькоў, якім няцяжка прымусіць усіх заплюшчыць вочы на ўсё, можна толькі здагадвацца.



Не магу не засяродзіць увагу шаноўнага чытача на набытках , ці дакладней сказаць, на тым, што здолелі захаваць нам рэстаўратары і менскія гісторыкі, краязнаўцы і археолягі. Я ўжо казаў пра адноўлены Катэдральны касьцёл на пляцы Волі, дзе скончаныя рэстаўрацыйныя работы на фасадзе і адноўлены інтэр'ер, у якім пад тынкоўкай савецкага часу захаваліся фрэскі 18-га ст., якія, думаю, стануць новай цікавай старонкай у гісторыі беларускага манумэнтальнага жывапісу. У 1983-1984 была ажыцьцёўлена рэстаўрацыя фасадаў касьцёла былога бэрнардынскага кляштару і гандлёвых радоў.У выніку аднаўленчых работ сапраўднаю пярлінай Менску стаў Сьвятадухаўскі праваслаўны катэдральны сабор, які раней належаў жаночаму бэрнардынскаму кляштару і быў збудаваны ў сярэдзіне 17 ст. Яшчэ дасюль ня скончана, але пасьпяхова крочыць да заканчэньня работа па аднаўленьні інтэр`еру Петрапаўлаўскае царквы на Нямізе 1613 г. Вернутыя вернікам касьцёл Сьвятога Роха, касьцёл сьв. Сымона і сьв. Алены на плошчы Незалежнасьці, касьцёл на Кальварыйскіх могілках, царква Аляксандра Неўскага на Вайсковых могілках, царква Марыі Магдаліны - усе яны зьяўляюцца ня толькі храмамі, але цудоўнымі архітэктурнымі збудаваньнямі - сьведчаньнем таленту нашых продкаў. Думаю, прыйдзе час, калі месцам адпачынку жыхароў і госьцяў беларускае сталіцы будзе ня парк Горкага, а адноўленыя кварталы Старога гораду зь сілуэтамі шматлікіх храмаў, якія, здаецца, вось-вось адарвуцца і паляцяць у вышыню , насустрач сонцу. Але няма такое сілы, якая магла б адарваць іх ад Беларусі, ад нашага Менску, таму нам трэба ставіцца да гэтага скарбу беражліва, захаваць для нашчадкаў як памяць пра слаўнае і трагічнае мінулае і сучаснае Беларускае зямлі.



Няхай жыве Менск!
Няхай жыве Беларусь!
Няхай жывуць вечна!

***Віктар Мухін,***
***Навучэнец Беларускага Гуманітарнага ліцэя***



**Шаноўнае спадарства! Не забывайцеся, калі ласка, пра конкурс карыкатураў. Ён працягваецца, але ж асаблівага захапленьня чамусьці ніхто яшчэ не выказаў, а ўвогуле, мы атрымалі ўсяго толькі некалькі карыкатураў. Чарговую карыкатуру нам даслалі "Патрыёты Бацькаўшчыны. Рух у Эўропу." - магілеўскі "Малады Фронт". Таксама памятайце, што пераможцы атрымаюць файныя прызы! Напомнім нашу паштовую адрэсу: г. Менск, 220005, вул.Варвашэні, 8, штаб-кватэра БНФ (Цімафею Дранчуку). Дасылайце, бо будзе позна! Чакаем!**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ`ЯВЫ

Для тых, хто хоча набыць беларускія кнігі (Гарт, Філістовіч і інш.), зьвяртайцеся па тэлефонах: 213-43-52(Наша Ніва), 231-04-08 (спытаць Віталя).

Хто жадае набыць аўдыёкасэты з запісамі беларускіх бардаў і гуртоў, званіце: 249-08-88, 231-04-08 (Вітаўт) альбо, каб атрымаць іх па пошце, дасылайце лісты на адрэсу: 220085, г.Менск, а/с №5.

Шапік ТБМ, што на днях зноўку распачаў працу, запрашае да сябе усіх беларусаў і не толькі, зацятых і тых, хто цікавіцца. Знаходзіцца ён каля Мастацкага музею, што блізка да крамы "SPALDING"

Ты хочаш насіць НАШ бел-чырвона-белы значак альбо проста значку на беларускую тэму? Зьвяртайся на адрэсу: вул.Варвашэні, 8 альбо звані 249-08-88, 231-04-08 (клікаць Вітаўта Супрановіча).

*Маладзёвы весьнік*

**Выходзіць з 1997 года**
**Заснавальнік** "Малады фронт"
**Адказны за макет і вёрстку** Цімафей Дранчук
**Адказны за нумар** Цімафей Дранчук
**Стыліст** Аляксей Чарняеў
**Рэдкалегія:** Павал Севярынец, Сяржук Паўленка, Алесь Асіпцоў, Яўген Скочка, Валянцін Стэфановіч, Аляксей Шэін
**Наклад** 199 асобнікаў
**Тэл.\факс для кантактаў** --- 2-33-50-12
*Адказнасьць за матар`ял нясе аўтар*
*Спасылка на "Маладзёвы весьнік" пры перадруку абавязковая*

*Вялікі дзякуй за фотаздымкі газэце "Народная Воля", газэце "СВАБОДА", сп. Карміліну.*